Свет вакол нас

Серыя
«Бібліятэка часопіса "Вясёлка"»

У кнізе сабраны самыя цікавыя сакрэты дзеда Усяведа, які адказвае ўнуку на розныя пытанні. У невялікіх нарысах, загадках, вершаваных задачках змешчана безліч захапляльнай і пазнавальнай інфармацыі, якая лёгка запамінаецца.

Безумоўна, кніга будзе карыснай для бацькоў, якія імкнуцца абудзіць у дзяцей цікаўнасць да самастойнага пазнання навакольнага свету.

Дзеткі ж з дапамогай гэтага выдання даведаюцца пра самыя незвычайныя таямніцы прыроды.

Вясёлка

АіВ

ISBN 978-985-471-723-4
9 789854 717234

Свет вакол нас

Серыя
«Бібліятэка часопіса "Вясёлка"»

Вясёлка

АіВ

# ТАЯМНІЦЫ ДЗЕДА УСЯВЕДА



## ВАРТАЎНІКІ САДОЎ І ПАЛЁЎ

Вы бачылі маленькага жучка, чырвонага ў чорных кропачках? Ну, вядома. Хто не ведае божую кароўку. Але мала каму прыйдзе ў галаву, што гэтая малая кволая істота прыносіць вельмі шмат карысці. Божая кароўка пільна ахоўвае расліны ад небяспечных шкоднікаў. Летам лісце пладовых і ягадных дрэў густа пакрываецца незлічонымі маленькімі насякомымі — тлямі. Яны высмоктваюць з лісцяў сокі. Супраць тлі вядзецца хімічная барацьба. Але хутчэй за ўсё з тлямі распраўляецца божая кароўка. Яна пракусвае тлю сваімі клюшнямі, і тая гіне. Так божыя кароўкі ахоўваюць расліны ад страшных паразітаў.



Мал. А. Волкава

Усё лета божыя кароўкі ачышчаюць сады і пасевы ад тлі. А ўвосень адлятаюць на зімоўку. Зімуюць яны звычайна ў перадгорных мясцінах — у Сярэдняй Азіі і на Каўказе.

## ЖЫВЁЛЫ І КОЛЕРЫ

Навуковымі доследамі акадэмік Іван Пятровіч Паўлаў устанавіў, што сабака бачыць увесь навакольны свет толькі ў адценнях шэрага колеру. Малпа бачыць усе тыя ж колеры, што





і чалавек. Цікава, што і голуб адрозніване колеры. Тараканбачыць сіняе, зялёнае і жоўтае, пацук — толькі чырвонае і сіняе, трус — зялёнае і чырвонае.

Марская свінка, як і сабака, колераў не разбірае. А вось зусім нядаўна заўважана, што страшны марскі драпежнік, акула, вельмі баіцца жоўтага. Дастаткова ёй убачыць жоўты колер, акула кідаецца ад яго, як ад агню.

## ЧАМУ КАЖАНЫ ЛЯТАЮЦЬ У ЦЕМРЫ



Каля двухсот год назад італьянскі вучоны Спаланцані асляпіў некалькі кажаноў і выпусціў іх на волю. Праз чатыры дні ён зноў злавіў іх і заўважыў, што слепата не перашкаджала ім на ляту лавіць спажыву. Але варта было пазбавіць кажаноў слыху, як яны бездапаможна натыкаліся на ўсе перашкоды.

Як жа лятаюць кажаны ў цемры? Вучоныя знайшлі адказ на гэтае пытанне.

Высветлілася, што кажаны пасылаюць у паветра нячутныя для чалавека гукі і прымаюць ад іх водгулле. Гук кажана натыкаецца на перашкоду і пасылае яму сігнал аб тым, што здабыча блізка, або аб тым, што на шляху небяспека і трэба яе абмінуць.

## ВЫШЭЙ ЗА ПТУШАК



Мы не любім павукоў. А дарэмна. Гэта вельмі карысныя істоты. Яны знішчаюць многіх шкодных насякомых.

Цікава адзначыць, што павукі — самыя выдатныя «верхалазы» ў свеце. Яны сустракаюцца ў гарах на вышыні сямі з паловай кіламетраў, у той час як птушкі могуць жыць на вышыні не больш за чатыры з паловай кіламетры.

Чым жа харчуюцца павукі на такой вышыні? Аказваецца, ім дастаткова таго, што заносіць у горы вецер.

## КВЕТКА РАТУЕ ЛЮДЗЕЙ

На схілах аднаго з дзеючых вулканаў на востраве Ява расце кветка — каралеўская прымула. Жыхары навакольных вёсак даўно заўважылі, што як толькі кветка пачынае распускацца, неўзабаве адбываецца вывяржэнне вулкана.





Таму людзі, калі ўбачаць, што прымула зацвітае, адразу ж пакідаюць свае хаты і пераходзяць у надзейныя сховішчы. За шмат дзясяткаў год добрая кветка ні разу не ашукала людзей.

Сакрэт гэтага дзіва просты: кветка загадзя адчувае нават самыя нязначныя награванні тоўшчы горных парод.

## РАТУЮЧЫСЯ АД НЕБЯСПЕКІ



Мал. А. Волкава

Яшчарка гатова адцурацца хваста, каб толькі вырвацца з рук чалавека, які яе злавіў. Хвост у яшчаркі адрастае. У трытонаў аднаўляецца не толькі хвост, але і сківаіцы, нават вочы. У рака адрастае адарваная клюшня.

Гэта таму, што некаторыя жывыя арганізмы маюць здольнасць аднаўляць свае пашкоджаныя часткі.

## ХТО САМЫ ВЯЛІКІ?

У цырк па вуліцы вялі слана.

— Дзеду, зірні, гэта ж гара ідзе! — закрычаў хлопчык.— Мабыць, большых за яго жывёл няма на свеце.



Мал. А. Волкава

— Сапраўды, з тых жывёл, што жывуць на сушы, самая вялікая — афрыканскі слон, — адказаў дзед. — Ён важыць шэсць тон, вышыня яго каля чатырох метраў, а даўжыня — чатыры з паловаю метры. Гэта вядуць індыйскага слана. Ён тоны на дзве лягчэйшы і амаль на метр ніжэйшы за афрыканскага. А самая вялікая жывёла на свеце — ...

## СІНІ КІТ

Ён жыве ў акіяне і важыць столькі, колькі заважаць 30 сланоў або 150 самых вялікіх быкоў — 150 тон. Даўжыня яго 33 метры. Сэрца ў сіняга кіта з добрага каня, яно важыць 700 кілаграмаў.



У першы дзень свайго жыцця маленькае кіцяня дасягае 8 метраў даўжыні і 6 тон вагі. За дзень яно выпівае 300 літраў матчынага малака і штодзённа прыбывае на 100 кілаграмаў.

— А якая самая вялікая жывёла ў нас, у Беларусі? — запытаў Вася.



## ЦАР ПУШЧЫ

— Каля Брэста, у Белавежскай пушчы, жывуць самыя буйныя ў нашай рэспубліцы жывёлы — зубры. Даўжыня зубра — тры з паловаю метры, вышыня — 2 метры, а важыць зубр тону.



Хлопчык не адставаў ад дзеда. Яму хацелася яшчэ дазнацца, колькі жывуць кусты і дрэвы. І дзед расказаў:

— Напрыклад, шыпшына, бруснічнік і чарнічнік, з якіх ты рвеш ягады цяпер, могуць пражыць да 300 гадоў, ядловец і сасна — 400, ліпа — 500, а дуб — да тысячы гадоў.



Некаторыя вучоныя лічаць, што мексіканскія кіпарысы жывуць да 10 тысяч гадоў, а аўстралійскае дрэва макразамія можа пражыць да 15 тысяч гадоў.

А вось у Індыі ёсць цікавае фінікавае дрэва. На ім больш за 3 тысячы галін. Пад яго ценем можа схавацца ад спёкі адразу 7 тысяч чалавек. Вучоныя падлічылі, што жыве яно ўжо чацвёртае стагоддзе.

Калі цябе зацікавілі расліны, дык раскажу яшчэ пра...

## МЫЛЬНАЕ ДРЭВА

Расце яно на паўвостраве Фларыда. Калі на ім паспеюць плады і іх расцерці, утвараецца мыльная пена. Жыхары паўвострава карыстаюцца гэтымі пладамі замест мыла.

## ЦІ ЁСЦЬ У ПЧОЛ ЗУБЫ?

На кветках, што растуць каля дома, унук убачыў некалькі пчолак.

— Дзеду, зірні, пчолы. Адкуль яны прыляцелі сюды?

— З вёскі, а можа, з лесу, — адказаў дзед. — Каб назбіраць...



## 100 ГРАМАЎ МЁДУ

пчала павінна абляцець каля мільёна кветак, а каб перанесці гэтыя сто грамаў у вулей, яна павінна прылятаць у яго 12 тысяч разоў. Можа, таму мёд такі салодкі.

— А зубы ў пчалы ёсць? — запытаўся хлопчык.

— Зубоў няма, ёсць толькі хаботок. А ведаеш, ...





## ХТО САМЫ ЗУБАТЫ?



Мал. А. Волкава

Ёсць у Амерыцы такі садовы смоўж, дык вучоныя налічылі ў яго 14 тысяч 175 зубоў. А колькі ў цябе зубоў? — запытаўся дзед.

— Ой, зараз палічу.

## ЦУДА-РЫБЫ

На рэчцы купаліся і загаралі дзеці.

— Дзядуля, паглядзі, Віця плавае, як рыба.

— А ці ведаеш ты, што не ўсе рыбы плаваюць аднолькава?

— Не, я гэтага не ведаю. Раскажы, калі ласка.

— Ну, слухай. Ёсць...

## РЫБЫ-«БЫСТРАХОДЫ»

Жывуць яны ў морах і плаваюць хутчэй за рачных. Напрыклад, ласось плавае з хуткасцю 18 кіламетраў у гадзіну, акула — 36–42 кіламетры. Але ўсе гэтыя рэкорды пабівае меч-рыба. Яна плавае з хуткасцю 97 кіламетраў у гадзіну!



— Ой, як цікава! А што дапамагае рыбам плаваць?

— Галоўным «маторам» у рыб-«быстраходаў» з'яўляецца хвост. Калі ён пашкоджаны, рыба не можа хутка плаваць.

Але ёсць і...

## ПАВОЛЬНЫЯ РЫБЫ



Рухаюцца яны без дапамогі хваста, змеепадобна выгінаючы цела. Гэта ўюны, вугры, міногі і іншыя рыбы. Яны не могуць развіць вялікай хуткасці. А рыбы, якія плаваюць пры дапамозе плаўнікоў, рухаюцца зусім павольна.

А ці ведаеш ты, што ёсць яшчэ і...

## ЛЯТУЧЫЯ РЫБЫ

— Не, не ведаю.

— Гэтыя рыбы жывуць у цёплых морах. Яны маюць вельмі вялікія грудныя плаўнікі, падобныя на крылы. «Рухавіком» у лятучых рыб служыць хвост. Лятучая рыба перад палётам падымаецца ў верхнія слаі вады і з хуткасцю 18 метраў у секунду плыве па паверхні. З такой жа хут-





касцю рухаецца кур'ерскі цягнік. Праз некаторы час рыба падымаецца ў паветра. Палёт працягваецца каля хвіліны. Пасля яна павольна, як на парашуце, апускаецца ў ваду. За хвіліну лятучая рыба можа праляцець да 400 метраў.

Яшчэ я раскажу табе...

## ПРА РЫБ-ГУЛЬТАЁЎ



Мал. А. Волкава

Ёсць і такія. Гэта рыбы-паруснікі. У іх на спіне вялікі плаўнік, які яны выстаўляюць на паверхню, і вецер нясе іх па вадзе.

Некаторыя рыбы надзімаюцца паветрам, ператвараючыся ў паветраны мяшок. Вецер і плынь нясуць іх уперад. А рыбы-прыліпалы прысмоктваюцца да вялікіх рыб або да корпуса карабля і перамяшчаюцца разам з імі.

Усе рыбы плаваюць галавой уперад. А вось рыба-шчаціназуб, якая жыве ў цёплых морах, можа плаваць уперад хвастом. Рыбы-сомікі, якія жывуць у

афрыканскіх рэках, плаваюць уверх жыватом.

Ёсць яшчэ рэактыўныя рыбы. Яны захопліваюць жабрамі ваду і выкідваюць яе праз плаўніковыя каналы. Гэтыя рыбы плаваюць вельмі хутка.

А прыдонныя рыбы з такімі цікавымі назвамі, як марскі чорт і марскі певень, пераскокваюць з месца на месца і поўзаюць па грунце. Некаторыя рыбы могуць нават бегаць па паверхні вады.

## ПЧАЛІНЫЯ РАЗМОВЫ



Мал. А. Волкава

— Як ты думаеш, ці ўмеюць размаўляць пчолы?

— Вядома, не ўмеюць.

— Ніколі не кажы, унучак, пра тое, чаго добра не ведаеш. Аказваецца, пчолы размаўляюць паміж сабой. Толькі, вядома, не так, як мы. Калі пчала хоча нешта сказаць сяброўцы, яна танцуе і махае крыльцамі.

У пчол, як у салдат, ёсць разведчыкі. Калі пчала-разведчыца знаходзіць кветкі, яна добра запамінае, дзе яны растуць, і дарогу да іх. Вярнуўшыся ў вулей, разведчыца «расказвае» сваім сяброўкам-зборшчыцам, куды трэба ляцець. Калі пчала вельмі трапеча крыльцамі, гэта значыць, яна знайшла добрыя кветкі, калі доўга трапеча, значыць, кветкі далёка, менш — кветкі бліжэй.



Вучоныя нават устанавілі: калі пчала махае крыльцамі палову секунды, то да кветак трэба ляцець 250 метраў.

## АКУЛЫ-СПЯВАЧКІ



Рыбалоўны траўлер быў на промысле ў Нарвежскім моры. Прыбор, які ловіць гукавыя сігналы ў вадзе, паведаміў што набліжаецца касяк селядцоў. Судна пайшло ўслед за касяком. Сігналы прыбора станавіліся ўсё больш выразнымі. Але раптам прыёмнік сярдзіта завурчаў, а потым пачуліся салаўіныя пералівы і свіст. Рыбакам хацелася даведацца, хто гэта спявае, і яны закінулі трал. Спявачкамі аказаліся маладыя акулы, якія гналіся за селядцамі.

## ДЗВЕ ТЫСЯЧЫ НАВАЛЬНІЦ



Вучоныя дазналіся, што на зямным шары адначасова адбываецца каля двух тысяч навальніц. Найбольш іх бывае ў трапічных краінах. Па ўсёй паверхні зямнога шара кожную секунду ўдарае каля 100 маланак.



Мал. А. Волкава

## ХТО НАЙБОЛЬШ ЖЫВЕ

Ішлі дзед з унукам праз густую дуброву.

— Ой, дзед, паглядзі, які вялікі дуб! Колькі яму гадоў?

— Яшчэ малады: гадоў сто будзе.

— Малады?! А колькі ж гадоў жывуць старыя дрэвы?

— Доўгі час лічылі, што самыя старыя на зямлі дрэвы — секвойі, або, як іх называюць, мамантавыя дрэвы. Яны вырастаюць да 110 метраў, а таўшчынёю бываюць да 10 метраў. Узрост гэтых дрэў — больш за 3 тысячы гадоў.

Але нядаўна вучоныя ўстанавілі, што ёсць такія сосны, якія на тысячу гадоў старэйшыя за секвойі. Самай старой сасне 4 тысячы 600 гадоў.

— Яна, мабыць, вельмі высокая і тоўстая?

— Не, старыя сосны не надта вялікія. У вышыню яны дасягаюць 20 метраў і каля паўметра таўшчынёю.

А ёсць...

## ДРЭВЫ-ВЕЛІКАНЫ



Яны маладзейшыя за сасну ці секвойю, але вельмі высокія і тоўстыя.

Адно такое дрэва — чынара — расце ў Грузіі. Яго называюць «чынара вандроўнікаў». Гэта «маладое» дрэва. Яму каля 600 гадоў, яно вельмі тоўстае. У яго дупле знаходзіцца шавецкая майстэрня.

Крыху старэйшае і таўсцейшае дрэва расце ў адным з раёнаў Азербайджана. Гэта дуб-велікан. Яму 1 тысяча 300 гадоў. Таўшчыня гэтага дрэва —

40 метраў. Пад кронай дуба можа схавацца да сарака грузавых машын.

## САМАЯ ВЯЛІКАЯ КВЕТКА

На востраве Суматра расце самая вялікая кветка. Завецца яна Рафлезія Арнольдзі. Важыць кветка 14 кілаграмаў, яе дыяметр — 140 сантыметраў. Жывіцца яна сокамі другіх раслін. У Арнольдзі няма ні лісця, ні сцябла. Яе маленькія карэньчыкі ўрастаюць у карэнні ліян і забіраюць у іх усе сокі. Свае ярка-чырвоныя пялёсткі гэта кветка распускае на карэннях ліян. Пах у яе вельмі непрыемны.

## ЗАГАДКІ ДЗЕДА УСЯВЕДА

— Пытацца і слухаць ты любіш. І маўчаць, калі я гавару, умееш. Гэта ў тваім узросце вельмі патрэбна. А цяпер паслухай, падумай і адгадай вось гэтыя загадкі:

Без крылаў, без матораў,
А даляціць да зораў.
*(Ракета.)*





Жалезны конь,
У сэрцы — агонь,
Сам сябе коціць,
І жне, і малоціць.
*(Камбайн.)*





Два гарбатыя сябры
Спрытна бегаюць з гары.
*(Санкі.)*



Залатое карамысла
Над загонамі павісла.
*(Вясёлка.)*



Рабенькая, малая,
Заўжды сама маўчыць,
А з кожным размаўляе
І ўмее ўсіх вучыць.
*(Кніга.)*

Гудзе, як пчала,
Ляціць, як страла,
Хоць ні бусел, ні камар,
А лятае паміж хмар.
*(Самалёт.)*

Вугаль ем і п'ю ваду,
Уздыхаю і гуду,
За сабой цягну абоз,
А завуся...*(паравоз)*.



Мал. Я. Змітровіча

А цяпер я загадаю табе шэсць народных загадак.



А што бяжыць
Без повада?



Мал. Я. Змітровіча

А хто белы —
Не бялёны?





А што скача
Без рук, без ног?

А што сіне —
Не сінёна?

А што плача
Без слёз, без воч?



— А ты, зможаш падабраць малюнак-адгадку да кожнай загадкі?



## ПРА МАРОЖАНАЕ І МЁД

Марожанае людзі прыдумалі даўным-даўно. Спачатку рабілі трубачкі са снегу, а каб яны былі смачнейшыя, залівалі салодкім ягадным сокам і замарожвалі. Потым пачалі рабіць марожанае з малака і цукру. Сакрэт прыгатавання гэтага ласунка прывёз у Еўропу ў XIII стагоддзі славуты італьянскі падарожнік Марка Пола. А цяпер ёсць цэлыя фабрыкі, якія выпускаюць сотні гатункаў марожанага.



Мал. Я. Змітровіча

Калі мы загаварылі пра салодкае, то трэба сказаць яшчэ і пра чорны мёд.

У паўднёвых краінах пчолы збіраюць нектар з кустоў кавы, і атрымліваецца чорны мёд. Так, як у нас з ліпавага цвету — мёд белы, а верасовы — чырванаваты.

Кветка і расліна надае мёду свой пах і колер. А раслін і кветак на свеце вельмі многа.

## КВЕТКІ І РАСЛІНЫ

Кожная кветка і расліна прыносіць карысць чалавеку. Людзі здаўна выкарыстоўваюць іх як лекі. Кветкі добра дапамагаюць і геолагам. Яны назапашваюць у сваіх сцёблах і лісцях хімічныя рэчывы. Усе ведаюць невялікую блакітную кветачку фіялку. Яна любіць глебу, у якой ёсць цынк і медзь. А расліны з такімі цікавымі назвамі, як святаяннік, чабор, атрагал, маюць у сабе часціны каштоўных металаў нікелю і малібдэну. Яны нават дапамаглі геолагам адкрыць месцанараджэнне медна-малібдэнавых руд.

Зямля наша багатая цудамі і дзівамі, трэба толькі ўмець да ўсяго прыглядацца.

## ПРА ЗМЕЙ

Вы не раз бачылі ў сваім лесе вужакаў, сліўняў. А на гэты раз я раскажу пра змей, якія жывуць у далёкіх краінах. Паслухайце. Кожная з іх здабывае сабе ежу рознымі спосабамі.

Адна з аўстралійскіх змей прываблівае птушак тонкім чырвоным кончыкам хваста. Убачыць птушка хвост, падумае, што гэта чарвяк, і смела набліжаецца да яго. Змяя ў гэты час і хапае яе.

А вось афрыканская кобра можа забіць сваю ахвяру на вялікай адлегласці, нават не дакранаючыся да яе. Гэта змяя пырскае на сваю здабычу яд за чатыры метры.





Мал. Я. Зміровіча

Змей на зямлі вельмі многа, і сустракаюцца яны ў самых нечаканых месцах. У індыйскім горадзе Алахабадзе адзін паштовы служачы адамкнуў паштовую скрынку, каб выняць адтуль пісьмы. Аж бачыць, у скрынцы ляжыць двухметровая змяя і снедае... пісьмамі. Яна паспела знішчыць амаль палову карэспандэнцыі.

## НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПТУШКІ

Я абяцаў расказаць табе штосьці цікавае пра птушак. Вось і раскажу пра птушак-бегуноў.

Жывуць яны ў Афрыцы, Аўстраліі і Паўднёвай Амерыцы. Лётаць не ўмеюць: у іх дрэнна развітыя крылы. Затое бегаюць вельмі хутка.

Невялічкая птушка на кароценькіх нож-
ках — ківі — бегае хутчэй, чым конь галопам.

Хоць крылы ў гэтай птушкі і дрэнна развітыя, але яны дапамагаюць ёй бегаць.

Самая вялікая даўганосая птушка — страус. Ростам ён да трох метраў. Бегае з хуткасцю да 45 кіламетраў у гадзіну. Калі трэба паменшыць хуткасць або зрабіць паварот, страус распускае крылы.

Жывяцца гэтыя веліканы раслінамі. Але могуць глытаць усё, што ім трапіцца: цвікі, кавалкі жалеза, шкло, гузікі.

Страусы вельмі любяць купацца і многа п'юць. За дзень страус выпівае каля 10 літраў вады. Таму і селяцца гэтыя птушкі блізка каля вадаёмаў. Сябруюць страусы з зебрамі, антылопамі, жырафамі.

Ёсць яшчэ і такія...

## Дружалюбныя і разумныя птушкі

Яны хутка прывыкаюць да чалавека і добра паддаюцца дрэсіроўцы.

Самая дружалюбная птушка — нанду. Жыве яна ў Паўднёвай Амерыцы. Рост яе паўтара метра. Нанду прыходзяць у загоны і шчыплюць траву разам з каровамі і авечкамі. Гэтыя птушкі вельмі добра дапамагаюць пастухам. Раніцай яны самі выводзяць з фермы гусіную чараду, а ў поўдзень, вызначаючы час па сонцы, прыганяюць усіх дахаты.

У Бразіліі жыве папугай, якога завуць Жазэ. Ён цэлымі днямі няньчыў маленькага хлопчыка Жаакіна. Калі Жаакін рабіў не тое, што трэба, папугай крычаў яму: «Нельга!»

Упадзе хлопчык або ўдарыць ножку — Жазэ адразу кліча яго маму.

Шмат птушак вакол нас, і кожная з іх прыносіць нямала карысці чалавеку. Вучоныя падлічылі, што на зямлі жыве 100 мільярдаў розных птушак.

## Жывая жар-птушка

Ты чуў казку пра жар-птушку? А ці бываюць сапраўдныя жар-птушкі? Выходзіць, бываюць. Увосень 1864 года ў дажджлівую цёмную ноч ішоў чалавек берагам Волхава і ўбачыў у змроку іскарку. Яна расла, набліжалася, а потым стала вогненнаю птушкай, праляцела над берагам і знікла ў цемры.

Усе загаварылі, што лятае жар-птушка. Такіх птушак бачылі ў розных месцах нашай краіны, але злавіць іх не ўдавалася.

На Чорным моры, каля Лебядзіных астравоў, адзін марак падбіў вялікага агністага лебедзя. Яго пер'е свяцілася ўсю ноч, а пасля патухла.

Чаму ж некаторыя птушкі свецяцца? Вучоныя дазналіся, што на пер'і птушак наліпае плесня, якая ў цемры пачынае свяціцца. Убачылі некалі людзі такога лебедзя і прыдумалі казку пра жар-птушку.

## БУДАЎНІКІ БЕЗ ТАПАРА

Унук прыбег да дзеда Усяведа з вялікай навіной:

— А мы ўчора хадзілі ў краязнаўчы музей. Ой, дзядуля, колькі мы ўбачылі цікавага!.. Я і не ведаў, што ў нашых лясах жыве столькі розных звяроў і птушак.

— Нашы лясы, унучак, багатыя на жывёл. У іх жыве больш за семдзесят відаў звяроў ды каля двухсот пяцідзесяці відаў птушак. Во колькі! Самым старанным працаўніком лічыцца бабёр.

Даўным-даўно гэтыя цудоўныя грызуны вяліся ва ўсіх лясах Еўропы, Азіі і Амерыкі. Ды вось трохі больш за сто год назад на баброў пачалося драпежніцкае паляванне. Бабровая шкурка вельмі дорага каштавала.

Хутка бабры былі амаль вынішчаны. Засталіся толькі ў Беларусі, на Украіне, у Смаленскай ды Варонежскай абласцях Расіі, а таксама ў Паўночным Заўраллі і там, дзе бярэ пачатак Енісей.

Бабры важаць часам больш за трыццаць кілаграмаў. Цела іх прыстасавана да жыцця ў вадзе. Яны добра ныраюць і могуць заставацца пад вадою да 15 хвілін. Вельмі лёгка плаваюць, бо на задніх лапах ёсць перапонкі, як у гусей. Хвасты ў іх пляскатыя, пакрыты лускою і служаць рулём.

Як толькі бабру пагражае небяспека, ён скача з берагу і так моцна пляскае хвастом па вадзе, быццам стрэліў хто. Пачуюць іншыя бабры і таксама ў ваду, далей ад ворага. На сушы бабры вельмі няўклюдныя.

— А чым яны харчуюцца, дзядуля?

— Карой, лісцямі, маладзенькімі галінкамі вярбы, лазы, асіны. Любяць яны і карэнне вадзяных раслін.

Сваімі вялізнымі пярэднімі зубамі-разцамі бабры перагрызаюць дрэвы да метра таўшчынёй. Асінку ў пяць–сем сантыметраў бабёр звальвае з пня за дзветры хвіліны. Як ён гэта робіць? Садзіцца на заднія лапы, абапіраецца на хвост, а пярэднімі лапамі трымаецца за ствол дрэва. І так круг за кругам перагрызае дрэва. Працуюць бабры шпарка і заўзята, толькі трэскі ляцяць.



Мал. В. Ціхановіча

На зіму гэтыя жывёлы нарыхтоўваюць сабе корм усёй сям'ей, бо яны не засынаюць, як іншыя грызуны. Зваляць дрэва, разгрызуць на паленцы і складваюць каля сваіх хатак.

— А хіба ў іх ёсць хаткі, як у людзей?! — здзівіўся ўнук.

— Не такія, як у людзей, але ёсць. Жывуць бабры цэлымі паселішчамі на берагах рэчак. Калі бераг высокі, то выкопваюць у ім нару, у якую ход робіцца пад вадой.

— А калі бераг невысокі, тады што?

— Тады яны робяць сабе хаткі-буданы з пруткоў, галінак і гразі. У кожнай такой хатцы ці нары жыве адна сям'я. І, ведаеш, кожны ў сям'і мае сваё пэўнае месца, усыпанае дробнымі трэсачкамі і засланае сухой травой. Гэта каб мякка было спаць ці адпачываць пасля работы.

Хатка бабра нагадвае капну сена. Яны бываюць вышынёю да трох метраў і шырынёю да дзесяці. А ход у яе таксама, як і ў норах, пад вадой.

Бачыш, бабры — не толькі дрывасекі, але і будаўнікі. Ды яшчэ якія! Яны робяць на вадзе такія плаціны, што чалавек можа пазайздросціць. Бывае гэта найбольш у сухое лета, калі вады ў рэчках меншае і адкрываюцца хады ў норы.

Тады бабры гуртам, усім паселішчам, апускаюцца ўніз па вадзе і робяць плаціну, каб падняць вышэй ваду каля сваіх хат.

— А як яны, дзядуля, робяць плаціну?

— Спілоўваюць зубамі дрэва і валяць упоперак рэчкі. Калі ж дрэва падае на бераг, пера-



грызаюць на кавалкі, ачышчаюць ад сучкоў і гуртам падцягваюць ці кацяць у ваду. На гэтыя дрэвы потым кідаюць рачныя водарасці, зямлю, каменні.

І такая выходзіць удалая і моцная плаціна, што вада падымаецца высока і зноў затапляе хады ў нару. Звычайна плаціны іх невялікія, але быў выпадак, калі бабры ў нашым Бярэзінскім запаведніку зрабілі плаціну даўжынёю 216 метраў, а ў Паўночнай Амерыцы — аж 692 метры і вышынёю 4 метры. І ўсё гэта робіцца без пілы, без тапара, без аднаго цвічка. Разумееш?

Хлопчык аж заміргаў вачыма ад такога дзіва. Потым, трошкі пачакаўшы, спытаў:

— Дзядуля, а ці многа ў нашай Беларусі баброў?

— Шмат, унучак. Больш за 20 тысяч гэтых каштоўных звяркоў. Іх патроху ловяць і перавозяць у іншыя мясціны, каб вяліся яны і там... Ну вось і ўсё збольшага пра лясных працаўнікоў.

— Сапраўды, працаўнікі, — згадзіўся хлопчык.

## Дрэвы-свечкі

У раёне Панамскага канала растуць дрэвы «для асвятлення». У пладах гэтых дрэў вельмі многа тлушчу. У іх устаўляюць кнот і запальваюць, як свечкі.

Кожная такая свечка гарыць 3–5 гадзін і зусім не дыміць. Мясцовыя людзі асвятляюць імі свае хаты.

## ВЯРБЛЮД НЕ ЎМЕЕ ПЛАВАЦЬ

Амаль усе жывёлы ўмеюць плаваць, і толькі вярблюд, трапіўшы на глыбокае месца, адразу ідзе на дно.

## ДЗЕД УСЯВЕД СЛУХАЕ

— Даўно мы ўжо сустракаліся з табой. Дзе ты падзеўся?

— У нас жа, дзядуля, канікулы былі. Я адпачываў у лагеры, хадзіў у паходы, кніжкі цікавыя чытаў.

— Ну і што ж добрае бачыў дзе, што цікавае вычытаў?

— Цікавага шмат. Ці ведаеш ты, дзядуля, ...

## НАВОШТА ЖУКУ-ДРЫВАСЕКУ ВУСЫ?

Ды яшчэ такія вялікія.



Аказваецца, вусамі жук нюхае, як мы носам. Па паху дрывасек знаходзіць сабе ежу і другіх такіх жа жукоў. Калі яму адрэзаць вусы, жук стане зусім бездапаможным і загіне.

А матылькі, пчолы, мухі, знаходзячы сабе спажыву, спрабуюць яе лапкамі на смак. Напрыклад, матылёк-траўнік, перш чым высмоктваць ежу сваім хабатком, спрабуе яе лапкай — ці смачная. Калі лапцы не спадабалася ежа, матылёк нават не разгортвае свайго хабатка.

Для павукоў галоўным з'яўляецца дотык. Бачаць яны дрэнна. Пра здабычу, якая трапіла ў іхнюю пастку, павукі даведваюцца па лёгкім трымценні павуціны.

Я даведаўся таксама, ...

## ЧАМУ ПЯЧЭЦЦА КРАПІВА



Мал. Я. Зміtровіча

Лісці і сцёблы ўсіх раслін складаюцца з клетак. У крапівы сярод звычайных тырчаць доўгія клеткі, падобныя на валаскі. Калі паглядзець на гэтыя валаскі ў мікраскоп, то яны падобны на бутэлечкі. У іх знаходзіцца пякучы ядавіты сок. Каб сок не выцякаў, рыльца бутэлечкі заканчваецца закрытай галоўкай. Каля самай галоўкі сценкі гэтай бутэлечкі вельмі тонкія. Варта дакрануцца да крапівы, як галоўкі бутэлечак адламваюцца наўскасяк і на канцы замест галоўкі застаецца вострае джала. Яно ўпіваецца ў цела і ўпырсквае туды ядавіты сок.

## ЧАМУ ШУМІЦЬ МАРСКАЯ РАКАВІНА

Аказваецца, ракавіна мае ўласцівасць узмацняць гукі. Калі прыкласці марскую ракавіну да вуха, можна пачуць шум. Адымеш яе — зноў ціха. Адкуль жа бярэцца шум? Гэта ракавіна ўзмацняе і перадае шум крыві ў нашых крывяносных сасудах.



Вось чаму ўсе канцэртныя эстрады маюць форму ракавіны. Знадворная частка чалавечага вуха таксама завецца ракавінай.

## СІЛА ГРЫБОЎ

Не так даўно ў адным горадзе залілі асфальтам вуліцу, а праз некалькі дзён асфальт патрэскаўся, падняўся і са шчылін вылезлі грыбы — шампіньёны.

Грыбы не толькі падымаюць асфальт, але і прабіваюць тоўстыя цвёрдыя пласты глебы. Як толькі грыб сустракаецца з перашкодаю, яго тканкі цвярдзеюць і растуць вельмі хутка.

Але такія дужыя не толькі грыбы. Вядома, што набрынялае бабовае зерне разрывала металічныя сцены танкера, а ствалы дрэў рвуць адзетыя на іх металічныя абручы.



## МАЛЕНЬКАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

Аднойчы ўнук гладзіў ката. Раптам ён пачуў лёгенькае патрэскванне.

— Дзядуля, паслухай, як поўсць у Мурзіка трашчыць. Чаму гэта так?



Мал. А. Волкава

— Э-э, унучак, ды ты, відаць, не ведаеш, што поўсць нашых катоў — гэта невялікая электрастанцыя.

— Адкуль ты ўзяў гэта, дзядуля? Якая электрастанцыя?! — здзівіўся хлопчык.

— Ты ж сам чуў трэск. Гэта і ёсць электрычныя разрады. Адзін вучоны-фізік вымераў сілу «кацінай электрастанцыі» і падлічыў, што токам такой электрастанцыі можна запаліць невялічкую лямпачку. Толькі для гэтага трэба адначасова гладзіць паўтара мільёна катоў.

Хлопчык рассмяяўся.

— Ты, унучак, мусіць, не чуў і пра...

## ГАРУЧАЕ ВОЗЕРА



Каля расійскага Ноўгарада ёсць возера Ільмень. Рыбакі заўважылі, што вада ў некаторых месцах закіпае і на паверхні з'яўляюцца невялікія фантанчыкі.

Калі ў такі фантанчык кінуць запалку, яна ўспыхне яркім агеньчыкам без куродыму.

Зімою рыбакі прабіваюць на возеры палонку, падпальваюць ваду і грэюцца. Калі паварушыць дно палкай, касцёр разгараецца яшчэ больш.

Вучоныя ўстанавілі, што бактэрыі дапамагаюць гнісці вадзяным раслінам, траве, торфу і ад гэтага ў вадзе ўтвараюцца гаручыя газы. Яны выходзяць з вады невялікімі фантанчыкамі. Падпаліш такі фантанчык, і здаецца, што гарыць азёрная вада. Так зімою і грэюцца ільменскія рыбакі.

А ёсць такі рыбак, што...

## Ловіць рыбу ў кінатэатры



Мал. А. Волкава

На паўвостраве Аляска ёсць такі кінатэатр, у які нельга купіць білет за грошы. Гаспадар гэтага кінатэатра патрабуе, каб за білеты плацілі яму жывою або марожанаю рыбай. Кожны сеанс прыносіць яму вялікі ўлоў.



## Птушкі-падарожніцы

Дзядуля, — спытаўся аднойчы ўнучак, — чаму гэта на маю кармушку не прылятаюць снегіры? У холад прылятали, а цяпер — не.

Дзед усміхнуўся і сказаў:

— А ты зірні, што гэта са стрэх звісае?

Хлопчык павярнуў галаву:

— Ледзяшы.

— От бачыш. Сонейка пацяплела, снег пачаў асядаць. Вясна надыходзіць. Вось снегіры і падаліся ад нас туды, адкуль прыляцелі, — на поўнач.



Мал. В. Ціхановіча

*Гэтыя птушкі прылятаюць зімаваць да нас*

А разам з імі зніклі шустрыя чачоткі, прыгажуні амялушкі, вясёлыя пуначкі. Яны прылятаюць да нас толькі на зіму, а як пацяплее, вяртаюцца назад. Гэтыя птушкі ў нашых мясцінах не робяць гнёздаў, не выводзяць птушанят. Яны ў нас — госці.

— А куды нашы птушкі адлятаюць у вырай? — пацікавіўся ўнук.

— А вось паслухай, — сказаў Дзед Усявед. — З даўніх часоў людзі заўважылі, што ўвосень многія



Мал. В. Ціхановіча

*Гэтыя птушкі жывуць у нас круглы год*



птушкі знікаюць, а вясной зноў паяўляюцца. Доўга не маглі зразумець гэтага. У старажытнай Грэцыі лічылі, што зязюля ператвараецца ў ястраба, гракі — у варон, а ластаўкі адлятаюць аж на Месяц або хаваюцца ў глей. І толькі пасля таго, як пачалі кальцаваць птушак, даведаліся, куды яны адлятаюць, як ляцяць, якімі шляхамі і нават колькі год жывуць.

— А як гэта кальцуюць птушак?

— Кальцуюць іх так. Ловяць спецыяльнымі сеткамі або шукаюць гнёзды з птушанятамі. На ножку надзяваюць лёгкае алюмініевае кальцо, на якім стаіць нумар і надпіс, напрыклад, «Мінск». Пасля, калі гэтую птушку дзе зловяць або застрэляць, дык абавязкова прышлюць кальцо навукоўцам. У нашай краіне кальцаваннем птушак займаюцца супрацоўнікі Бярэзінскага запаведніка, Белавежскай пушчы, студэнты-біёлагі.




Мал. А. Волкава

Беларусь багатая птушкамі. У нас жыве каля трохсот відаў розных птушак. З іх толькі 80 відаў застаецца на зіму. У Беларусі зімуюць вароны, галкі, сініцы (іх у нас 8 відаў), сойкі, жаўтагаловыя каралькі, крыжадзюбы, часткова — гракі, качкі-крыжанкі і шпакі, а ў лясах — глушцы, цецерукі, рабчыкі, курапаткі і шмат іншых.




*Гэтыя птушкі адлятаюць у вырай*



Некаторыя птушкі, якіх мы прывыклі бачыць увесь год, аказваецца, таксама адлятаюць у вырай, а на іх месца прылятаюць птушкі з поўначы. Вунь, бачыш, вароны сядзяць на дрэве. Яны не нашы. Нашы пераляцелі туды, дзе цяплей: на Украіну, у Румынію, а да нас прыляцелі іх сваякі з поўначы.

— Ну, а чаму ж адлятаюць птушкі?

Прычын для гэтага шмат. Але я раскажу табе пра самае галоўнае. Калі надыходзяць халады, спажывы становіцца менш. І птушкі, сабраўшыся ў чароды, вымушаны пакідаць родныя мясціны. Спачатку адлятаюць тыя, што харчуюцца насякомымі: ластаўкі, стрыжы, мухалоўкі, зязюлі; пасля — шпакі, дзікія галубы, чайкі. Самымі апошнімі выбіраюцца ў дарогу жураўлі, качкі і гусі. Ляцяць яны, трымаючыся свайго заўсёднага шляху. Вадаплаўныя птушкі — уздоўж вялікіх рэк, лясныя — кіруючыся на вялікія лясы. Адны птушкі ляцяць удзень, другія — толькі ўночы. А такія, як драч і перапёлка, большую частку свайго падарожжа ідуць па зямлі і падымаюцца толькі тады, калі трэба пераляцець раку або мора.

— А куды ж ляцяць нашы птушкі, дзядуля? І як яны жывуць на чужыне?

— О, нашых птушак можна сустрэць у многіх краінах. Гракі і шпакі зімуюць ў Германіі, Чэхіі, Славакіі, Францыі, Італіі і нават у Іспаніі. Буслы і чаплі — у Афрыцы. Шэрую мухалоўку з Беларусі сустракалі ў Партугаліі, а вадаплаўных птушак — на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, у Даніі, Галандыі і паўднёвай Англіі.

Там, далёка ад радзімы, нашы птушкі не ўюць гнёздаў, не выводзяць птушанят, не спяваюць сваіх вясёлых песень. Яны пералятаюць з аднаго месца на другое, шукаючы спажывы. Набіраюцца сіл, каб напрадвесні выправіцца дадому.

Вось хутка прыляцяць нашы крылатыя сябры, і іх трэба сустрэць як належыць. Як мага болей нарабіць шпакоўняў і дуплянак, падрыхтаваць пачастунак, каб падкарміць іх пасля доўгай і цяжкай дарогі.

# МУРАШКІ-ПРАЦАЎНІЦЫ

— Ты кажаш, унучак, што ў гэтым лесе нічога цікавага няма?

— А што тут можа быць цікавае? Мы ўсім лагерам яго схадзілі і нават зайца не бачылі.

— Дрэнна, значыць, хадзілі. А вось я ўжо бачу цікавае — мурашнік. Паглядзі, як бягуць мурашкі: адна за адной, ланцужком. Сцежку яны пазнаюць толькі па паху. Першая прайшла — пакінула духмяны след. Па следу пайшла другая — пах стаў мацнейшы, больш трывалы. Пах дапамагае мурашкам знаходзіць дарогу дамоў, пазнаваць сваіх. А як сустрэнуць чужых, з іншага мурашніка, абавязкова пачынаюць біцца. Ваяўнічыя!



Мал. В. Цікановіча

Мурашкі — вялікія майстры. Зірні на іх шматпавярховы будынак. Ён зроблены без адзінага цвічка, а стаіць моцна. Мурашкі вельмі працавітыя. Увесь дзень яны ў клопаце: будуюць ці рамантуюць сваё жыллё, палююць на вусеняў, слізнякоў, дробных насякомых. Цяжка падлічыць, колькі шкоднікаў знішчаюць гэтыя нястомныя працаўніцы, якую карысць прыносяць.

— А што яны яшчэ ядуць? — пацікавіўся хлопчык.

— Апрача «мясной» стравы, мурашкі ядуць ягады, зярняты. Вельмі любяць салодкае.

Хлопчык нізка схіліўся над мурашнікам і злёгку паварушыў яго галінкай.

— Ой, як пахне кіслым! — усклікнуў ён.

— Гэта мурашыная кіслата, якой яны «страляюць» у ворага, каб напужаць ці знішчыць яго. У гэтую хвіліну «вораг» — галінка і твая рука.

— Мабыць, яны думаюць, што мы хочам разбурыць іх дом і забраць мурашыныя яйкі, каб куранят карміць, — засмяяўся ўнук.



— Не, думаць мурашкі не могуць, хоць і працуюць дружна. А вось пра «мурашыныя яйкі» паслухай. Яйкі мурашак мала хто бачыў: яны драбнюсенькія, меншыя за крупінкі проса. З іх выводзяцца

лічынкі, якія ператвараюцца ў коканы з кукалкамі ўсярэдзіне (гэтыя коканы памылкова называюць мурашынымі яйкамі). А ўжо з коканаў выходзяць дарослыя мурашкі. Мурашкі кормяць і чысцяць свае лічынкі, выносяць іх на сонейка пагрэцца, а ў дрэннае надвор'е і на ноч хаваюць у самым сподзе мурашніка.

Мурашкі кормяць не толькі сваіх лічынак, але і адна другую. Паказыча галодная сытую вусікамі — і тая дасць ёй паесці.

Клопатамі пра патомства, руплівай працай занятыя ў мурашак увесь час да самых халадоў. А зімою яны спяць моцным сном, збіўшыся ў камяк унізе свайго дома... А ты казаў, няма нічога цікавага ў лесе.



Мал. В. Цiхановiча



## ЗАГАДКІ

### ДЗЕДА УСЯВЕДА

*Я, дзед Усявед,*
*Абышоў цэлы свет.*
*Вяртаўся да дому,*
*Нёс гасцінцы малому.*
*На парозе сянец*
*Свой паставіў карабец.*
*Калі ласка, усе, хто хоча,*
*Адмыкайце замочак.*
*Хто хутчэй адамкне,*
*Хай шапне*
*На вушка мне,*
*Што ж у тым карабцы.*
*Адгадалі?*
*Малайцы.*
*Даставайце*
*Па парадку,*
*Разбірайце загадкі.*



Мал. Я. Зміровіча

### СЯМ'Я

Дуб-Дубавін,
Дванаццаць галін.
На кожнай галіне
Чатыры гняздзіны.
У кожным гняздзечку
Па сем яечкаў.
Кожнае мае
Сваё імя.
Хто адгадае,
Што за сям'я?
*(Год. Месяц. Тыдзень.)*

## БРАТ І СЯСТРА



Брат сястру пабачыць рад,
Але строгі ў іх расклад:
Прачынаецца сястра —
Брату спаць ісці пара.

*(Дзень і ноч.)*

## БРАТЫ

Пабывалі ва ўсім свеце,
Вандравалі на ракеце,
Удваіх яны не раз
Бачылі Венеру, Марс,
А сустрэцца ўсё не могуць,
Хоць жывуць цераз дарогу.

*(Вочы.)*



Мал. Я. Змітровіча





## ПАД БРЫЛЁМ

Пад адным брылём
Чатыры браты.
Зойдзеш у дом —
Убачыш іх ты.

*(Стол.)*

## СЁСТРЫ

Расчашу сама адну,
Сама заплятуся,
А другую не крану,
Пагладзіць баюся.
Шасне грэбень востры —
Травы ніц кладуцца.
Што гэта за сёстры,
Як яны завуцца?

*(Каса.)*



## БАБУЛЯ

Хоць яна і злая —
Нікога не чапае.
Але кожнаму дасць
здачы:
Хто пакрыўдзіць —
Сам заплача.

*(Цыбуля.)*



## У ЯРЫ ХАВАЮСЯ



У яры хаваюся,
У берагах бягу,
За гару хапаюся —
А ўстаць не магу.
Калі б толькі ўстала —
Да неба б дастала.

*(Рака.)*

## НЕ ПЫТАЙСЯ

Не пытайся ў мамы —
Сам гавары:
Хто ходзіць над намі
Нагамі
Дагары?

*(Муха.)*



Мал. Я. Зміtровіча



## У ДВУХ МАТАК

У двух матак
Па пяцёра дзіцятак
І ўсе аднагодкі:
Трое доўгіх,
Двое кароткіх.
Назваў бы вам я
Кожнага імя,
Ды вы самі знаеце,
Самі адгадаеце.

*(Пальцы на руках.)*



## ПОВЕН ХЛЯВЕЦ

Повен хлявец
Белых авец.
Добра жывецца,
Лёгка жуецца
Дружнаму статку.
Хто засмяецца —
Скажу вам адгадку.

*(Зубы ў роце.)*



# Ці бывае папугай паўночным?



Аднойчы дзед сказаў унуку:

— Даўно мы, унучак, не хадзілі з табою ў лес.

— А што мы цяпер убачым там, дзядуля? Зіма, снег навокал. Ні аднае птушачкі нідзе няма. Хіба варону сустрэнеш, дык іх і тут хапае.

— Дрэнна ты ведаеш зімовы лес, калі так гаворыш. А паўночнага папугая бачыў калі?

— Не. А што гэта за паўночны папугай, дзядуля? Я ведаю паўднёвых папугаяў, што жывуць у трапічных лясах. Прыгожых такіх. Гавараць нават умеюць.

— Гэта не тое. Я пра паўночнага кажу. Збірайся.

Апрануліся яны і паехалі ў лес. Рыпіць пад лыжамі снег, а дзядуля ўсё азіраецца і прыспешвае ўнука:

— Даганяй, унучак, даганяй!

Прыехалі на прасеку. Спыніліся.

— Паглядзі, як маўкліва пазіраюць старыя сосны і елкі, — кажа дзядуля.

— А папугаі дзе? — не церпіцца хлопчыку.



— Пачакай, праедзем яшчэ трошкі, і ўбачыш.

Зноў зарыпеў снег пад лыжамі. З прасекі дзядуля павярнуў убок, спыніўся і шапнуў:

— Ну, глядзі цяпер уважліва на дрэва. Што там бачыш?

Але як хлопчык ні ўглядаўся, нічога не мог заўважыць.

Тады дзядуля паказаў на яліну. І тут хлопчык ўбачыў на галінцы маленькую, трошкі большую за вераб'я, птушачку. Між зялёных галінак добра віднелася ярка-чырвонае апярэнне.

— Сядзіць. Ой, якая прыгожая! — шапнуў хлопчык, але дзядуля падняў палец — гэта азначала маўчаць.

Птушачка сарвала з дрэва шышку, ашчаперыла лапкамі і зручна ўселася на галінцы. Паглядзела навокал і дзюбкай пачала спрытна вылузваць зярняткі. Толькі чулася: «гіп-гіп», «цок-цок».

— Давай прыглядацца, тут недзе гняздо з птушаняткамі.

Унук здзіўлена паглядзеў на дзеда і падумаў: «Што ён



Мал. А. Волкава

кажа? У такі холад птушаняткі?» І раптам убачыў гняздо.

— Вунь яно, дзядуля, — шапнуў хлопчык. — І галоўка птушачкі там відаць.

— Гэта маці грэе сваім целам маленькіх птушанятак, каб не памерзлі, — сказаў дзядуля. — А вылузвае зярняткі бацька. Ён будзе карміць сваю сяброўку і дзетак, аж пакуль тыя не апрануцца ў пер'е. А тады ўжо разам будуць гадаваць. Гняздо яны робяць цёплае.

— Дзядуля, а чаму паўночныя папугаі зімою выводзяцца?

— Па-сапраўднаму яны называюцца крыжадзюбамі. А людзі завуць іх паўночнымі папугаямі за падобныя на папугаевы дзюбку і апярэнне. Бачыш, як перакрыжавана яго дзюбка? Гэта прырода так пастаралася, каб яму лепш было даставаць зярняткі з шышак.

Тут хлопчык добра разгледзеў і белую палоску на жываце крыжадзюба, і прыгожае апярэнне.

— А чаму яны выводзяцца зімою, ты так і не сказаў, дзядуля.

— Ды таму, што ўзімку ім лягчэй гадаваць дзяцей, бо харчуецца гэтая птушка найбольш насеннем яловых і сасновых шышак. А ўлетку дзе тыя зярняткі возьмеш? Яны ж высыпаюцца з шышак на зямлю.

— Ой, як цікава! — прашаптаў унук, не зводзячы вачэй з крыжадзюба, які церабіў шышку.

— А ты казаў, што нічога не ўбачыш у лесе зімою.



***

Зусім тонкі стаў каляндар — засталося некалькі лісточкаў. Канчаецца год. Праб'е дванаццаць гадзін, загарацца агні на ёлках, і пачнецца новы год. Да дзяцей прыйдзе вясёлы Дзед Мароз.

— Колькі гадоў Дзеду Марозу? — спытаўся ўнук у дзеда Усяведа.

— Не такі ён ужо і стары, — сказаў Усявед. — Першы раз ён прыйшоў на навагоднее свята сто гадоў таму. Ён, вельмі сярдзіты, з дубцом у руцэ, быў апрануты ў мундзір салдата. Ушчуваў дзяцей, палохаў іх і садзіў у свой вялікі мех. Малыя баяліся такога Дзеда Мароза і хаваліся ад яго хто куды. Пасля ён патроху рабіўся лагаднейшым і палохаў толькі самых неслухаў, а паслухмяным дзецям раздаваў цукеркі і арэхі.

Мінула шмат часу. Дзед Мароз стаў добрым і вясёлым. Ён разам з дзецьмі скача ў карагодзе, расказвае казкі і раздае падарункі. Таму яго ўсе так любяць і чакаюць.

А ведаеш, калі з'явілася...

## ПЕРШАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЦАЦКА

— Мабыць, яе таксама прыдумаў Дзед Мароз, — адказаў хлопчык.

— Не, яе знайшлі вучоныя, якія вывучаюць гісторыю. Яны раскопваюць старажытныя курганы і знаходзяць там розныя рэчы, зробленыя людзьмі даўным-даўно. Аднойчы пры

раскопках у Персіі вучоныя знайшлі першую дзіцячую цацку. Яна праляжала ў зямлі больш за тры тысячы гадоў. Цяпер першая цацка захоўваецца ў славутым французскім музеі Луўры.

— А ці ведаеш ты, калі і як з'явіліся...

## ПЕРШЫЯ ЛЫЖЫ



Мал. А. Волкава

Шмат стагоддзяў назад паўночныя плямёны займаліся толькі паляваннем. Па глыбокім снезе цяжка было хадзіць, і паляўнічыя дадумаліся прывязаць да ног дошчачкі. Людзі, якія хадзілі па гарах, рабілі кароткія і шырокія лыжы. Часам іх спадыспаду абівалі калматаю скураю. На такіх лыжах было добра ўзыходзіць па крутых адхонах — поўсць не давала лыжам спаўзаць назад. Паляўнічыя, што жылі ў тундры, рабілі коўзскія лыжы. Левая была доўгая, а правая — карацейшая, каб ёю было ямчэй папіхацца.

Лыжы ўвесь час мяняліся і паляпшаліся, пакуль не сталі такімі, як цяпер.



## КАЛІ ПАЧАЛІ АДЗНАЧАЦЬ НОВЫ ГОД



Мал. Я. Зміторвіча

Надыход Новага году адзначаюць з незапамятных часоў. З 1 студзеня многія краіны пачынаюць новы лік дзён. Але ў некаторых паўднёвых народаў новы год пачынаецца не ў студзені, а ў сакавіку, у час абуджэння прыроды. І лік дзён пачынаецца з 20 сакавіка.

Звычай урачыста адзначаць пачатак новага года на еўрапейскі лад — 1 студзеня, установлены ў Расіі ў 1699 годзе царом Пятром І. У першы дзень новага года цар сам запаліў на Краснай плошчы ў Маскве ракету. Ён загадаў усім багатым людзям упрыгожыць свае вароты яловымі галінкамі або паставіць каля іх ёлкі. Але доўга быць зімою на дварэ каля ёлкі холадна, і людзі пачалі ставіць ёлкі ў пакоях, упрыгожваць іх.

— Дзядуля, а чаму менавіта ёлкі трэба ставіць?

— І пра гэта, унучак, скажу. Многія старажытныя народы лічылі, што ёлка прыносіць шчасце і мір. Вось таму зялёную госцю лесу зрабілі каралевай навагодняга свята.

У розных краінах Новы год адзначаюць пасвойму. У нас ён пачынаецца вясёлай ёлкай з Дзедам Марозам і Снягуркай. У немцаў

Новы год прыходзіць у выглядзе салдата, а ў Нарвегіі — у казлінай шкуры і казлінай масцы.

Для таго каб не блытаць лік дзён, месяцаў, людзі прыдумалі календары. Яны бываюць розныя: настольныя, перакідныя, адрыўныя, вечныя, календары-табелі.

## ПЕРШЫЯ КАЛЕНДАРЫ



Мал. Я. Змітровіча

Яны з'явіліся ў Еўропе ў XVII стагоддзі. Імі карысталіся толькі багатыя людзі. Календары рабілі з дрэва і вешалі ў парадных пакоях над камінамі. Невялікія драўляныя календары насілі ў кішэнях.

Часта календары рабілі ў выглядзе наканечнікаў да кія.

Драўляныя календары былі квадратныя. На кожным баку квадрата мецілася пара года — тры месяцы — і рабіліся нарэзкі, якія абазначалі дні. Усе яны былі аднолькавай даўжыні і таўшчыні. Толькі рысачка, якая абазначала нядзелю, была таўсцейшай і даўжэйшай. Святы таксама мецілiся адмысловымі знакамі.

Календары багата ўпрыгожваліся і каштавалі вельмі дорага. Цяпер календары друкуюць на паперы, каштуюць яны танна і ёсць у кожным доме.

— І адкуль ты ўсё гэта ведаеш, дзядуля?

— З кніг. Чытай іх больш, і ты даведаешся шмат цікавага.





## ЗАДАЧКІ АД ДЗЕДА УСЯВЕДА

### У КОЖНЫМ КУТКУ

У кожным кутку
У хаце па катку.
Кожны сядзіць,
На траіх глядзіць.

Колькі ж куткоў
І колькі каткоў?

### ПЯТЫ

Чатыры салдаты
Лічылі пяты,
Далучыўся пяты:
— Залічыце мае пяты.
Падышло дваццаць
І яшчэ пятнаццаць.
Пяць сказалі: — Братцы,
Трэба разабрацца:
Сорак пят
І сорак пят —
Колькі ж нас
Усіх салдат?

## ЛЯЦЕЛІ ГАЛУБЫ

Ляцелі галубы.
Селі на дубы —
Па пары на кожны,
Зірнулі ўбок,
А адзін дубок —
Парожні.
Паасобку рашылі сесці —
Аднаму не хапіла месца.
Колькі дубоў,
Колькі галубоў?



Мал. Я. Змітровіча



## КОЛЬКІ ПАЛЬЦАЎ

Колькі пальцаў на руцэ?
Кожны знае: пяць.
Добра, што адразу ў цэль
Можаш ты цаляць.
Добра, толькі не спяшы,
Хай другія рэшаць.
А на двух руках, скажы,
Колькі будзе? — Дзесяць.
Не забыцца б нам пра тое
У задачы трэцяй:
А на дзесяці руках
Колькі пальцаў, дзеці?

## НА ВЯРБІНЕ

На вярбіне —
Тры галіны,
На кожнай галіне —
Па тры апельсіны.
Колькі нарвеш,
Столькі і з’еш.



## ПРА ПАНЧОШКІ І РУКАВІЧКІ

— Пасядзі спакойна, Вася,
Па баках не аглядайся,
Не чашы, браток,
За вухам,
А яшчэ разок
Паслухай:

«Маша коціку на ножкі
Падарыла панчошкі,
А малой сястрыцы —
Панчошкі і рукавіцы.
Колькі пар было панчох,
Колькі рукавіц?»

Уздыхнуў хлапчына: — Ох!
Нос павесіў ніц.
— Дзед, задача не для нас,
Трэба клікаць увесь клас.

— Ты, Васіль, не ўмееш слухаць,
Вось што я табе зазначу.
Набярыся, хлопча, духу,
Сам рашы сваю задачу.
А пасля паклічаш клас —
Ёсць задачкі для ўсіх вас.



## РАЗРЭЖЦЕ САМІ

Шэсць метраў шоўку,
Купіла швачка
Дочкам на абноўку,
А вам — на задачку:
Штодзень ножнамі
Адразала маці
Па метру для кожнае
І шыла плацце.
Колькі дзён шоўк
Рэзала швачка?
Якраз для малышоў
Гэта задачка.
Размерайце самі,
Раздзяліце самі,
Нарэшце
Разрэжце
Сваімі рукамі.

<u>Адказы:</u> *У хаце 4 куткі і 4 каткі; 40 салдат; 3 дубы і 4 галубы; на дзесяці руках — 50 пальцаў; на вярбіне не растуць апельсіны; 3 пары панчох і адна пара рукавіц; 5 дзён.*

## ЗМЕСТ



«Бібліятэка часопіса "Вясёлка"»
Збяры ўсю серыю!
Жывая класіка
Эдзі Агняцвет
У СВЕЦЕ ДАБРЫНІ
Нашы замежныя сябры
Вітаўтас Бараўскас
ЗІХАЦІЦЬ НА НЕБЕ СОНЦА
Замовіць кнігі вы можаце на нашым сайце www.aiv.by
Сябры нашы меншыя
КОТ ЖЫВЕ БЕЗ ТУРБОТ
Чытанка-маляванка
Раіса Баравікова
МАТЫЛЁЧКІ–МАТЫЛЬКІ
Жывая класіка
Уладзімір Ліпскі
САКРЭТЫ КОЛЕРАЎ ВЯСЁЛКІ

Літаратурна-мастацкае выданне

Серыя «Бібліятэка часопіса "Вясёлка"»

# Таямніцы дзеда Усяведа

Апавяданні, загадкі, вершы, задачкі

Укладальнік:
**Левіціна** Алена Іванаўна

Рэдактар *А. І. Левіціна*
Мастак вокладкі *В. К. Жалудкова*
Дызайн *В. К. Жалудкова*
Мастацкі рэдактар *К. К. Шастоўскі*
Камп'ютарны набор *Г. І. Гліняніца, К. К. Шастоўскі*
Камп'ютарная вёрстка *К. К. Шастоўскі*
Карэктар *Т. А. Іванова*

Падпісана да друку 23.06.2014. Фармат 70×100 1/16.
Папера афсетная № 1. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,2. Ул.-выд. арк. 3,0. Тыраж 2000 экз. Заказ № 88.

РУП «Выдавецтва "Адукацыя і выхаванне"».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/19 ад 02.08.2013.
Вул. Будзённага, 21, 220070, г. Мінск.

Надрукавана ў друкарні
ТАА «СУГАРТ».
ЛП № 02330/427 ад 17.12.2012.
Вул. Мантажнікаў, 39-206А, 220019, г. Мінск.